Беларускае выдавецкае таварыства
140515

Год I—1912. Май 2-ая кніжка.




**ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.**

Падпісная цэна на 1 год **1 р. 20** кап. на 6 месяцоу **60** кап., за перамену адрэсу **20** кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакцыя: **Вільня Завальная 7.**

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсц у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам **40 к.**, за тэкстам **20** к За разсылку рэклям пры месячніку вагай да 2 лотоу **7** руб. ад тысячы.

**Цэна асобнага нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

## Як з простай кабылы дахавацца заводнага жэрэбца.

Збірайцеся, гаспадары, паслухайце, што было: была у мужыка жаребка, вядама, якая мужыцкая кабыла — жарэ, як за сябе кідаець, жывот, як укаровы, клубы тырчаць, крывымі нагамі ледзь ступае, як не сваімі; то лейцамі тузай, то пугаю таўчы, а пабарануеш паўдня, дык рукі баляць. як з пілоўкі. Павеў мужык кабылу на рынак, каб прадаць і купіць лепшую. Ніхто больш за 30 руб. не даець а прыбавіўшы сваіх грошы рублеў дваццаць дык і за 50 руб. дабраго каня недакупішся. Паблукаўся мужык на рынку, сустрэў знаёмаго канавала, што у горадзі пры концы лечыць. Пагаманілі; кажэ канавал: „Кабыла твая дрэнная, а жэрэбят усё такі вадзіць будзе, ёсьць та-

кіе жэрабцы па дворах заводные, або казённые, выгадуеш сам, а тым часам са сваею кабылаю пры рабоці ешчэ памучышся гадкоў скольні. Прыехаў гаспадар дамоў нічога на рынку незрабіўшы, а тым часам прыйшла такая пара, што трэба кабылу у злучку.

Выбраўся наш гаспадар у суседні двор, гдзе коні заводные; пытае канюхоў, колькі за злучку, каб жэрэбца да палявой сельскай работы, каб крэпкаго, як маець быць? Кажуць канюхі, за злучку 25 руб. а жэрабцоў паглядзі сам, гэта Ардэн, гэта — Суффольк (такі завод), усё для цяжкой работы, а там легкіе коні да коннай язды. Кажэ мужык: „Чорт іх бяры, як завуцца вашы коні, а я пагляджу, якіе у іх ногі!“ Падходзіць да жэрабца, што да гаспадарскай работы на разгляд, ногі грубые, крэпкіе, як сталёвые, крыж кароткі, зад такі, як стрэха, шыя грубая і кароткая, лапаткі простые. Кажуць, гэткі склад да палявай работы і да возу. З гэтаго жэрабца гаспадар Рыбак з в. Рыбакоў Васілішскай вол. Лідзк. пав. за пэразімка с простай кабылы узяў 130 руб. другі гаспадар з. в. Калечыц, Ян Ласюк, гэтай вясной прадаў кабылу 5 гадоў, з казённаго жэрэбца за 238 рублёў.

Думаў аспадар, думаў, надумаўся заплаціў 25 руб, злучыў кабылу, узяў ад аканома цэтлік, паехаў дамоў.

На лета прывела кабыла жэрэбя. Прайшло тыднёў колькі ходзіць кабыла на пашы з другімі коньмі, бегаюць жэрэбяткі сасуны, а хто ідзе ды бачыць такое ладнае жэрабё, і даведываецца ад нашаго гаспадара, што да заводных жэрэбцоў сваю кабылу вадзіў, дзівуецца, што с простай кабылы такое жерабё вывелося. Так і усім гаспадаром трэба старацца, каб дабраго каня выгадаваць да возу і да сельскай работы, араць ды баранаваць ды на рынак паехаць.

Г. Ів.

*м. Васілішкі Віл. губ.*

---

# ЯШЧУР, ЯЗЫЧНАЯ ХВАРОБА У КАРОЎ.

Гэта хвароба бываець у кароў, авечак, коз, сьвіньней, рэдка у коні. С пачатку хвароба не паказываець знаку ад 1 да 5 дзён; першая азнака — гэта гарачка у каровы, каторая даходзіць да 40 — 41 градуса, малако у дойных кароў робіцца жаўтаватае, а калі яго загатаваць, то часамі стваражываецца; карову трасець трасца, робіцца нудная, морда робіцца сухая і гарачая дзёсны, язык, і шчокі робяцца чырвонымі, жвачка і палыканьне трудные, цячэць сліна, праз суткі, двое у губох, на краёх языка, а часамі у глотцы паказываюцца жоўтаватые

або белые пузыркі, спачатку з прасяное зерня, а посьля як гарох або і вялікшые; пузыркі наліты спачатку як бы вадой, а потым мутнеюць, лопаюцца і робяцца раны, сліна цячэць і карова ня можэ ёсьць пакуль не загояцца раны. Цельные каровы пры яшчуру часамі скідаюць. Бывае, што хвароба пераходзіць на ногі каля капытоў у катоў і на вымя, а у быкоў на машонку. Хвароба перэдаецца ад аднэй каровы другой слінай, кроўю ,мачой, калам, гноем, кормам, але і да чэлавека яна можэ прыстаць; трэба добра мыць рукі і быць асьцярожным. Гной ад хворай каровы трэба вывазіць далей, а жолаб і драбінкі трэба выбеліць вапнай. Калі купляюць новую карову, то яе трэба патрымаць са 2 тыдні асобна, каб даведацца ці не маець яна яшчура.

*Лячэньне.* Хвароба у адзін 2 тыдні сама праходзіць, а калі лячыць, то скарэй рот абмываюць слабым растворам меднаго купарвасу, ногі і вымя мажуць карболавым маслам, дзёгцем. Робяць моцны навар дубовай кары і прамываюць ей рот, альбо мажуць мёдам з моцным воцэтам. Піць даюць чыстую ваду, уліваючы на вядро 1 — 2 гарбатніх лыжкі саляной, або воцэтнай кіслаты.

Карміць сенам, цёплым пойлам з мукой, атрубамі добра даваць гатаванную бульбу.

**А.**

---

# Рожа у свіньней.

Хвароба гэта пошэстная і выкачывае шмат свіньней, на яе хварэюць парасяты, палавіна іх гінець. Хвароба гэта перэдаецца, як ужо вучоные давялі, праз маленькіе жывые кіечкі (іх можна угледзіць толькі праз вельмі павялічываючае шкло), бактэрыі рожы; іх шмат у крыві хворай свіньні, у кішках, у лёгкіх. Дыханьне і кал хворай перэдаюць хваробу здаровым, нават у хлеві, дзе былі хворые свіньні разводзіцца зараза.

Хвароба пачынаецца з таго, што свіньня ня есьць, трасець яе трасца, скура каля вачэй, дзёслоў, машонкі, вымені, пад брухам чырванеець; а калі ужо мацней захварэець, то цячэць сьліна, ваніты, дыхаець шыбка і часта, гарачка нападаець, пры гэтым бываець запаленьня мозгу, свіньня круціцца, робіцца соннай.

Для лячэньня трэба аддзяліць здаровых, з хлявоў гной вывезці гдзе далей, дзе няходзіць скаціна, зямлю у хляве скапаць на чверць аршына, пасыпаць сьвежай вапнай сцены і усё што можна выбеліць вапнай, ці вадой, у каторай распушчэно на 1 вядро вады 1 залатнік сулемы, прад сулемой трэба ешчэ укінуць 1—2 залатнікі простай солі. (Сулема моцная труцізна — асцярожна з ей!).

Дохлых свіньней трэба глыбока закапываць у зямлю.

Лекі пры гэтай хваробе мала памагаюць, хаця даюць на ваніты (1 залатнік ванітнаго каменя на бутэльку вады), на чатыры разы. Цяпер робяць так: калі паказываецца рожа, то прышчэпліваюць усім здаровым свіньням рожу, тагды яны трошкі пахварэюць і ізноў скора здаравеюць, а некаторые і саўсім не баяцца хваробы.

Хворых свіньней найлепш трымаць на чыстым паветры і карміць іх сыраваткай ці вадой з воцтам.

**А.**

---

# Бульба.

Бульба выбіраець з зямлі больш пажыўных часьцей, як зернавое збожжэ, і маець надта слабые кареньня, каторые ня могуць прабівацца праз цьвёрдую глебу, шукаючы харчэй для расьліны. — Значыць, з гэтаго відаць, што бульба патрэбуець угноенай зямлі добра выробленнай. Паміж нашых расьлін—гэта пан. Пад бульбу трэба вырабляць зямлю ешчэ з восені; на ніве, ўзаранай толькі вясной, быльба ніколі не удаецца. Звычайна у нас аруць поле пад бульбу у восень толькі адзін раз, як і пад дабро. Для гароху, аўса гэтаго хватае, але для бульбы трэба у восень жэ дваіць.

Першы раз трэба араць, як толькі сажнуць жыта, пакуль земля ня высахнець і не зляжыцца; араць трэба плытка, каб глеба ня сохла і трава не ўзялася расьці, і для гэтаго трэба баранаваць, калі німа часу на арбу, то трэба разрыхліць жніўё пакуль ешчэ стаяць снапы спружыновымі ці діскавымі (талерачнымі), баронамі, тагды земля будзе пульхная і вільготная. Другі раз трэба ўзараць у восень, як можна глыбей, параконным плугам, дастаючы аж мацерыковую зямлю, которая зімой перамерзне, а вясной угнаіцца. Каб не выварачываць шмат мёртвай зямлі, можна за плугам пушчаць замлюуглубіцель, каторы дапусьціць паветрэ да мацерыковай зямлі, не выкідаючы яе на верх. Калі німа земляуглубіцеля, то можна пускаць ешчэ плужок, каторым абганяюць бульбу.

На зіму трэба кідаць небаранаванай, а вясной трэба разбіць пахату спружыновай бараной, ці звычайнай, але калі у восень земля была двоена, то трэба адразу садзіць бульбу, не аручы вясной, каб ня высушаць зямлі.

Калі у восень аралі толькі адзін раз, то вясной трэба узараць глыбей, даць гной і садзіць бульбу. Бульбу ня трэба глыбока садзіць, а на цяжкіх глінастых землях і тым больш, садзіць так, каб больш мяккай зямлі было пад бульбіной, як над ей. Садзяць пад плуг ці пад акучнік. Садзіць трэба рэдка 18 — 20 і 25 цалёў бульбіна ад бульбіны. Цяпер садзаць і пад значнік, каб можна было яго абганяць крыж на крыж.

Не варта рэзаць бульбу дробна, бо разные хваробы лягчэй тагды бяруцца найлепш выбірадць сярэдніе бульбіны. Найлепшы гной пад бульбу гэта хлеўны, даваць яго з восені, але тагды глыбока не заорываць яго на зіму.



Амэрык. талерачная барана (ц. ад 72 руб.).

Вясной сьмела можна даваць гной у часе самаго саджэньня бульбы: гной ня толькі гноіць, але і робіць зямлю лягчэйшай. Добра ідзець бульба на зааранымі лубіне, асабліва калі пад лубін быў пасыпаны каініт (калій), каторы бульба вельмі любіць.

Штучные гнаі (парашкі) да гэтых пор ешчэ не давалі вялікай карысьці бульбі.

У нас сеюць больш „простые“ сарты булбы. Цяпер ёсьць новые сарты, каторые даюць лепшые уражаі, белые — *мэркэры*



Паглыбіцель (ц. ад 10 руб.).

і сініе — *Вольтмана*, з проб В. Ластоўскаго на беняконскай пробнай станціі відаць, што у нашы сухіе гады добра урадзілі:

*„Царыца Августа“*, *„Гавронкі“* *„Сілезія“*. Ня трэба забывацца пра старые гатункі; *„Варшавянку“* (Эр-дэ-роз) каторы добры тым, што высьпеваець раней.



Абсыпнік для бульбы
(ц. ад 5 руб.).

Праз 1 — 2 тыдні пасьля саджэньня бульбы, яе трэба пабаранаваць раз, а то і два, каб зніштожыць, траву і падпушыць зямлю, каб ня ўсохлася.

Абганяць трэба раней, як толькі пачнуць выхадзіць лісты. Абганяць трэба 2 — 3 разы, с пачатку мяльчэй, а пасьля глыбей.

Калі бульба зацьвіціць, то яе ўжо больш ня можна чэпаць.

З хвароб бульбы, каторые убіваюцца у яе вядома (Філофтэра), бульбяная гніль, каторая заводзіцца часамі



Значнік (ц. ад 20 руб.).

пры цёплай і вільготнай пагодзе; ад яе чарнеець і спадаець ліст у юлі, аўгусьце. Лекоў ад гнілі німа, ёсьць толькі гатункі, каторые не паддаюцца гэтай хваробе.

---

# Як лепей садзіць бульбу.

„Як хто хочэ—так той робіць“, кажуць людзі. Але не ўсякаму удаецца зрабіць тое, што яму хочэцца. Так, напрыклад у нас садзяць бульбу на розные лады: адны пад барану; гэтак найбольш садзяць па дварох, — другіе пад саху. Пад саху садзяць траякім спосабам: 1) завозяць кавалак зямлі гноем, растрэсаюць яго, тады загорываюць і разам з заду садзяць бульбу; пры гэтым трэба помніць, што бульбу заўсягды садзяць праз баразну, каб можна было посьле абганяць, і значыць у гэту баразну загорываецца гной, каторы не прыносіць ніякай карысьці для бульбы, а прападае дарма. 2) Так сама растрэсаюць навоз, загорываюць яго, а з заду адзін садзіць бульбу, а другі граблямі згортывае у баразну навоз, каб парожная баразна асталася без яго; гэты спосаб ня кепскі, але у ім выходзіць тая самая мерка навозу, што і у першым: а усякая жменя навозу у нашай беднаце, як ведама, дарага прыходзіцца. 3) На кавалак, гдзе мае быць бульба, навозіцца гной вялікімі кучкамі, але затое рэдка, так сажні на 2 ва ўсе бакі. Па самай сярэдзіне паміж радамі гараты робіць склад і астанаўліваецца у канцы, каб бабы справіліся засадзіць абедзьве бараз-

ны і затрасьці іх навозам; затрэсаюць гноем толькі там гдзе ляжыць бульбінка, а там дзе німа трасьці ня трэба, бо бульба надта не разрастаецца карэнямі на бакі. Хоць гэткая садка марудней, як першые дзьве, аднак, гаспадару астаецца палавіна навозу і у восень выбярэ бульбы болей і лепшай, як ад першай садкі.

Гэткім спосабам найлепей садзіць там, дзе жвіраватая земля. Паложэная на бульбінку жменя гною, ніхай будзе вун якая суш, вельмі добра дзяржыць вільгаць, а як толькі пройдзе дождж тады вада перэбіраецца празъ жвірок да гною, а там, змыўшы з гною усе сокі, іызе да карэньнёў.

Я радзіўбы нашым земляробам папрабаваць гэты апошні спосаб садкі. Я сам ведаю, што гэты спосаб надта марудны, але затое карысьці у двая: астанецца палавіна гною, будзеш пэўны, што не пабаіцца твая бульба сухаты, хоць ты пасадзіш і на жвірочку, а ураджай у восень будзе добры.

*Крайск Віленскай губ.* **А. Петрашкевіч.**

---

# Аб расадзе.

Ужо весна. Бабы адна да аднэй ходзяць пазычаць расады, „Каб ведала сястрыца, летась такіе пекные высадкі былі, але трэба-ж пасадзіла у пятніцу, дык і чэрві зьелі“.

— „А, шкада, трэба памятаць! што у пятніцу ня можна садзіць высадак“, — радзіць другая.

А тут вінавата не пятніца, а сама гаспадыня.

Вось мы перш скажем аб расадзе, а пасьля аб высадках. Усюды па нашых вёсках, блізка пры кожнай хаці ёсьць маленькі зрубок, у каторым сеюць расаду і дзеля гэтаго ённазываецца „расаднікам“, кожны год у расаднік кладуць гной, а які гной? Гной кароўі, даўгую салому, с катораго для расады німа ніякай карысьці. Ці-ж гэта можэ быць добра? Трэба заўсягды класьці толькі дробненькі конскі гной, і не кідаць яго так, як кідаюць на полі пад ячмень або гарох, а трэба з расадніка выкідаць за зрубок, зямлю пасьля накідаць роўненька гною на самы спод і ізноў рыдлёўкай засыпаць яго; пры гэтым трэба акуратна вытрэсьці карэньчыкі, каб прыжыўшы не глушыла трава расады. Сеяць ня трэба лішне густа, бо з гэтаго малая карысьць; іншые, я бачыў, сеюць расаду так: набярэ у губу зернятак і тады порскае па ўсім расадніку. На якіе гэты варожкі? Самае лепшае сеяць узяўшы у нюшок, гэта значыць, у пальцы, толькі сеяць трэба роўненька, а пасьля забаранаваць граблямі. Гной ня трэба часта класьці, лепей за усё раз у два—тры гады, бо як надта гнойная земля, тады на карэнчыках расады робяцца барадаўкі, ад каторых перэсаджэная

расадзінка, або не прыжыве, або прыжыўшы ня вырасьце. Найбольш трэба пільнавацца, каб у расадніку не расла трава, бо яна надта зьедае гной і глушыць расаду.

У восень ссекаючы капусту, гаспадыня вырывае колькі качаноў с карэньнем. Гэта на высадкі, і, як я бачыў, ня се гэтые качаны у яму, дзе засыпаюць бульбу, ды ставіць там на верх бульбы да вясны. Закапанай у яме бульбе гэта ня шкодзіць, а качаном і як ешчэ, бо ім патрэбен даступ сьвежага паветра, а у ямі німа прадухі. Вось вясной гаспадыня дастае з ямы леташніе качаны, — ані пазнаць: чорные, гнілые — і хочэ з іх мець добрае насеньне на расаду.

Качаны што на высадкі трэба заўсёды трымаць у такім мейсцы, дзе можэ быць пастаянны прыток сьвежага паветра. Найлепш у варыўні (істопцы) дзе яны ня зьмерзнуць і не згніюць.

Толькі трэба пільнаваць, каб мышы не паелі, бо тагды качан не прыжыве, а калі і прыжыве, то ня будзе цьвісьці, або зацьвіце пустацьветам.

**А. П. — ч.**

---

# Грэчка.

„З гаршка — аруд, і з аруда — горшчок", гэтак бывае з грэчкай, як кажэ старая наша прыказка. І ткі праўда. Грэчка асабліва апошнімі гадамі ўнадзілася выкідываць гэткіе штукі. А чаму? Любіць грэчка прыпаркаватае лето с пераходнымі дожджыкамі і страшэнна баіцца позных веснавых і ранных восенскіх прымарозкоў. А тут, як раз і леткі сталі халодные, і прымарозкоў і такіх, і сякіх -- колькі хочэш; дык ня дзіва, што, частавата трапляецца „з аруда — гаршчок". Каб-жэ як раз трапіць с сяўбой грэчкі на пару, ніякі фізык не дарадзе, бо з Богам кантракту ня зробіш. Дык мо не варта і займацца з грэчкай?... І варта і трэба!

У нашых хлэбаробаў праз лад ужо аднастайная еда: бульба і ячмень, і вось, якіе-бы там стравы не выдумлялі нашы гаспадыні (праснакі, зацірка, крупнікі і кашы з пэнсаковых круп, бліны, аладкі з бульбы, шкляные клецкі з яе і т. д.), а усё-як ткі гэта будзе ячмень ды бульба; і хоць язык ашукаеш, але цела не ашукаешь. Чэлавеку сытней, здаравей і смачней есьці, калі больш перамен у стравах. А грэчка і сытная, і смачная: бліны, клёцкі, кашу з яе — ясі чэлавек — ажно нос гнецца.

Апрача таго, адзін удалы ўраджай грэчкі, заплаціць можэ за колькі год прапашчых, бо і цэны на яе заўсёды добрые: 80 к.. рубель і даражэй за пуд.

А найважнейшае вось што: грэчка удаецца на такіх дзер-

ванах і песках, дзе ўжо ня толькі авёс, але і ярыца ня хочэ расьці. А ешчэ трэба ўзяць пад увагу і тое, што работа на такіх грунтах скорая і лёгкая; кідаць-жэ яго пад пашу карысьці бадай што ніякай німа. Сеяць-жэ грэчку можна з бяды—гора і другаком, а першак пойдзе на сваю патрэбу, або на продаж.

Рада гэта ўся, разумеецца, найбольш прыгодна там, дзе ўся гаспадарка не наладжэна ешчэ, як сьлед, т. е. дзе такіе горшые кавалкі зямлі валяюцца без ніякай карысьці, Там-жэ, дзе заведзены ўжо лубін, ці сэрадэля, дык німа чаго і гаварыць, што перш лепей імі падправіць зямлю, а тады ўжо сеяць што выгадней. Але і на лепшых грунтах (асабліва на бульбяньні), грэчку сеяць варта, бо там разумеецца, больш надзеі скарэй папасьці „з гаршка — ў аруд". На гнойным — цяплейшым грунце грэчка скарэй узрастае і пасьпевае, дык барджэй можэ уцячы ад прымарозкоў.

Можна ешчэ мець карысьць з грэчкі, і то карысьць не малую.

Калі не хват гною пад жыта (гэтак у нас вядзецца), а ў кішэні не хапае (і як ешчэ часта), купіць лубіну, ці сэрадэлі, каб мест гною, падсеяць папар, то можна сеяць грэчку.

Тут ужо ня трэба баяцца, зьмерзне, ці не яна ў цвеце, а сеяць так, каб можна было яе за тыдні 3—4 перэд сяўбой жыта — загараць; загорываць трэба ў самым цвеце, дый сеяць яе не так, як на зярнё, але густа, бо чым гусьцейшая і лепшая будзе грэчка, тым лепшае будзе і жыто. Здаралося мне не раз бачыць жыта на грэчцы ня горшые, як і на пагної.

Толькі памятайце, якая-б не удалая была грэчка, не ганіцеся за зярнём, а каціце у цвеце пад скібу, а жыта заплаце за ўсё.

**Гаспадар.**

---

# Просо у нас.

У м. Смаляры каля Зембіна Барыс. п. пасеяў я 2 пуды карычневаго (бураго) раньняго проса ад Іммэра з Масквы (па 2 р. 50 к. пуд) на добрую гнойную зямлю, рукамі выбраўшы увесь пырнік, забаранаваў лёгкай бараной, але праз 3 нядзелі узялася трава; выпалолі траву; пасьпело просо разам з позным ячмянем, сзжаў, ссушыў на плоце, намалаціў 80 пуд, але было ешчэ сыравата і трохі засталося у снапах зерня. Не было просорушкі, каб абдзерці, дык скармілі курам.

**А. Бач—кі.**

---

# Як рабіць, каб куры лепш нясліся.

Курэй у нас мала хто добра даглядае. Зімой ешчэ таксяк кормяць, а летам курыца павінна сама сабе пракорм знайці. Ніводная сельская гаспадыня і не падумае, каб зводзіць старых курэй, ці мецъ клопат каб курыца больш неслася і клалаб большые яйкі. Зімой мала хто ўмее выхаваць яйкі ад марозу. Па сёлах больш морацъ курэй голадам. А то бывае і так, што другая гаспадыня, любячы курэй, закорміць іх так, што тые не нясуцца ўжо ад тлустасці. Трымаюць курэй у нас больш ў хаці, пад печай ці пад лавай і дзе-негдзе па хлявох з другой жывёлай, трымаюць ў цеснаце, ў цёмнаце і вільгаці. А тым часам ўсе гэта затрымывае раньнюю носкасць курэй, бо яны, як і другая жывёла, маюць патрэбу і чыстаго і сухога паветра і цеплаты і руху. Сухасць паветра вельмі патрэбна курыцы, бо ад вільгаці пачынаюцца ў іх хваробы.

Кожны гаспадар, хто мае летняк (ці чыстую хату, як завуць ў другіх; дзе жывуць летам), павінен зімою трымаць там курэй. Калі летняк вялікі, а курэй мала, можна адгарадзіць мейсца, лічачы па аршыну ў шырыню на кожную курыцу. Вокны трэба закратаваць лазянымі пруткамі, пры ладзіць насесты і зрабіць гнёзды, гдзеб куры нясьліся. Насесты павінны быць з плоскіх дашчок, ці кантованых жардзей, бо круглые жэрдзі паганы маладым курам. Насесты прыладжываюцца ня вышэй, як паўтара — два аршыны ад памосту (вышэй не рабіце!). Каб куры не паскудзілі памост, трэба пасыпаць яго на паўвершка сухім пяском ці тарфяной парахнёй, а пад самымі насестамі трэба разсыпаць ці попелу, ці неперапалянае вапны. Курынны гной два разы на тыдзень трэба змясці і складаць ў зацішную ад снегу мейсціну на агародзе. Добры гаспадар павінен збіраць іх дзеля ўгнаеньня агароду (вельмі добра для капусты). Для цеплаты, якую любяць куры, трэба агрэваць хату, палячы печ хоць праз день. Неперэпаленую вапну разсыпаюць разам з пяском ці тарфяною парахнёю, ня менш, як па паўтара вядра на дзесяць курэй. Яна выцягівае вільгаць і цяжкі дух ад курачаго гною; гэта трэба для здароўя курэй. Як толькі будзе дзе вільгаць на масту, гаспадар павінен змяніць падсцілку, бо вапна больш ня мае ўже сілы. Добра далей раскідаць па масту трохі ячнае мякіны і рэзанай напоў вымалачэнай жытняй саломы, а к столі падчапіць на шнуры па качану капусты на дзесяць курэй (так на тры чверці аршына ад полу). Куры любяць капусту і падлёаючы будуць яе дзюбаць. Усё гэта робіцца для руху курэй, а салома грэе, калі падлога халодная.

Кормяць курэй два разы ў дзень: раніцаю мяккім кормам, вечэрам—зернем. Як мяккі корм — даецца мешаніна: парэная бульба, бурак, або крапіва, отрубы ці мука. У дзень на дзесяць курэй бяруць:

атрубоў — паўфунта

бульбы — фунт с чвэрцью
буракоў, крапівы ці др. зеленя — фунт.

Усе гэта дробна пасеч, добра вымешаць і запарыць ў чыстым карытцы.

Вечарам даваць зерне: ячмень, авёс ці жыта, па фунту с чвэрцью на десяць курэй. Вада для піцця курам павінна быць чыстая і меняцца кожны дзень. Як толькі куры зьядуць мешаніну, карытцы трэба чыста вымыць і прасушыць, бо ад старога корму заводзіцца там кіслата, а яна для курэй пагáна (хварэюць тыфусам ці халераю).

Каб куры нясліся з студня месяца (января), апрыч вышэй названае мешаніны, трэба даваць ім яшчэ на кожные дзесяць курей:

сухіх грыбоў — восьмую фунта
льнянам мякіні — столькіж
сцёртаго вугальля — адну жменю
чырвонай цэглы (дробна тоўчанай) — адну жменю
простаго перцу — тры гарошыны.

Усе гэта добра яшчэ раз ў ступцы ці інакш стаўчы, прасеяць скрозь сіта і парашок гэты падмешываць па тры разы на тыдзень к мяккаму корму (мешаніне).

Каб куры добра нясліся парашок трэба прымешываць да ліпня месяца (юля).

**Наз. Бываеускі.**

**Масква.**

---

# Што трэба цяпер рабіць у садзе.

Калі у садзе ёсьць старые дрэвы, то іх трэба падмаладзіць такім спосабам: перш трэба зрэзаць залішніе сукі, але трэба гэта рабіць асьцярожна, бо калі за многа зрэжэм, то сокі ударадь ў астаўшыеся сукі, і яны могуць захварэць; можна адымаць ня больш пятай часьці гальля, і то трэба толькі слабейшые і сохнучые. Потым абчысьпіць спэціальнай драцяной шчоткай (каштуець 1 руб.) кару ад моху, абабраць лісты з яечкамі чэрвя, пабяліць дрэва такім саставам: 1 часць караўніку, 1 гліны, 7 часьцей вады чыстай і 1 часьць вапны неадгашэнай; на 10 вёдзер гэтаго саставу ўліць 2 фун. газы і 10 фун. попелу, ніхай пастаіць суткі, а тагды гэтым пабяліць пень і сукі, калі можна усё. Гэтые работы трэба зрабіць усе у марцы, да палавіны апрыля (красавіка).

Пароды пэўные для гандлёвых садоў у нашым клімаце такіе: яблыні: антоноўка, цітоўка, кальвіль, цытрыновая, рэнэта курская рэнэта залатая, ппэінка. І грушы: фунтоўкі, безсемянкі, вінёўкі, сапежанкі, бэры шэрые.

**Сак-ая.**

# Што рабіць з ягадамі вясной.

Агрэст, парэчкі, і маліны заўсёды дужа рана распускаюцца вясной, дык вось, як толькі сьнег зыйдзе, трэба з старых кустоў агрэсту і парэчак зрэзаць аброслые мохам старые галіны (гэта адмаладзіць куст); пасля акапаць куст, уважаючы, каб не падрываць маладых карэньчыкоў, што знаходзяцца зара пад зямлёй, — і трэба падліць кусты гнаёўкай, прыгатаванай с кароўяго навозу, курынаго і звычайнаго попелу. Акладаць вясной кусты навозам ня можна, бо ад гэтаго з'яўляюцца чэрві; рабіць гэта можна толькі ў восені. Цяперь-жэ трэба падліць гнаёўкай два разы: першы раз — як распускаюцца лісьця, другі — як пачне красаваць куст.

У малінах так сама трэба зрэзаць сухіе леташніе галінкі. а маладые добра зрэзаць на трэйцюю часьць іх вышын (тады пекнейшые будуць галіны). Тоненькіе і слабые галіны трэба вырэзаць зусім с куста. Маліннік, ведама, расьліна аднагодняя, і яе карэньчыкі растуць на версі зямлі; — дык вось трэба часта каля яго разрыхляць зямлю; і калі ёсьць, обсыпаць куст перагніўшымі трэскамі, каторые маліннік дуже любіць. Акапаўшы куст, як бульбу, добра паліць гэтай самай гнаёўкай, што і іншые ягаднікі.

Гэта работа вясной каля старых кустоў. Хто маніцца разсадзіць маладые, той павініен флянсаваць.

З агрэстам трэба так рабіць: узяць на кусьце маладую галінку (аднагоднюю), прыгнуць да зямлі на палавіну, зашчаміць яе ў дзерэўляные вілачкі і падсыпаць падыспод дабрай зямлі; пасля ўкапаць тую галінку ў тую зямлю, але толькі так, каб не адламаць ад куста. Ад гэтаго зробяцца карэньчыкі, і ў восені ужо будзе малады кусьцік, каторы пасля абрэзаецца ад старога куста і садзіцца асобна. Каля аднаго куста можна зрабіць якіх 5 ці 6 флянсоў, толькі трэба палажыць шмат добрай, унавожэнай зямлі, бо гэткіе флянсаваньня дужа аслабляюць стары куст.

С парэчкамі крыху інакш робіцца. Бяруць леташнюю галінку, згібаюць на колькі кавалкоў так, каб кожны меў на 6—7 вочэк, і утыкаюць да зямлі, пакідаючы на самым версі ад 2 — да 3 вочэк, с каторых да восені вырастуць лісьця; а с тых, вочэк што знайдуцца над зямлёй, будуць рабіцца карэньня. Вось і будуць новые кусьцікі, толькі і тутака зьвернем увагу на тое што трэба падсыпаць дужа добрай зямлі. Найлепш пад гэто ўзяць стары расаднік. Маладые кусьцікі трэба падліваць, пакуль акуратна не разрастуцца лісьця.

Хто хочэ разсадзіць маліны, той павінен дзяліць кусты у жніўні месяцы. А як садзіць малады ягаднік, чытач знойдзе ў восені ў нашай „Сасе“.

Сліўнік і вішні любяць зямлю глiністую, памешаную с торфам. Садзіць іх трэба у сакавіку, або красавіку і паліваць, па-

куль распускаюцца. Абрэзаць сліўняка ці вішняка старога нельга, бо ад гэтаго дрэўцы сохнуць. Можна абрэзываць толькі сухіе галінкі.

Трускаўнік і паземнік трэба садзіць у жніўні. Земля павінна быць добрая. Пасадзіўшы яганік такім парадкам :.:.:.:, як паказывае гэты рысунак, трэба падліць гнаёўкай, разведзенай вадой, пасля абрэзываць вусы, палоць і акапаць колькі разоў вясной. Як закрасуе ягаднік, аблажыць мохам, каб прытрымаць вільгаць і каб ягады былі чыстые.

**Сок-ая.**

---

# Работы у пчэльніку.

Калі хочэш каб твае пчолы былі сільные і далі добры даход, то паслухай, скажу адзін пчэльнікоўскі сэкрэт: *падкармі вясной усе свае пчолы, хоцьбы яны былі найсільнейшымі.*

У нас думаюць, што трэба карміць толькі тые раі, каторые ні маюць харчоў — галадаюць; карміць тых трэба, бо калі не дасі ім есьці, то саўсім атпадуць, але ня ў тым толькі сэкрэт, тут я хачу сказаць аб кармленьні пчол з расчотам. Спамятай тагды: *кожная залатоука, затрачэная на пчол вясной, прыносіць сярэбраны рубель у восень.* Не адзін пчальнік дзівуецца, чаму гэта яго пчолы ня рояцца і не маюць мёду? А вось гэта таму, што пчол не карміў з вясны.

Карміць пчол трэба або чысьцюсенькім мёдам, або сытой, гэта значыць мёдам, ці цукрам, разведзеным у вадзе. Мёд або цукер разбаўлены на палавіну з вадой — будзе сыта багатая; адна часьць мёду на дзьве часьці вады — будзе сыта убогая. Корм падаецца пчолам у плоскіх талерачках, а на верх трэба натрусіць сечкі, каб не тапіліся пчолы. Калі карміць пчол на чэрву ім трэба даваць убогую сыту і корм трэба падаваць па крысе, на раз поўшклянкі, але часта.

Пчолы убачыўшы сыту, думаюць, што прыйшла ужо пара браць мёд і гэта вельмі іх цешыць, яны робяцца сьмялейшые і матка пачынае крэпка чэрыць, ад чаго число чэрвы і дружыны прытка пабольшываецца. Гэткіе пчолы выдадуць пасьля новы рой і наносяць многа мёду. Трэба толькі ведаць, што не заўсёды можна пчолам даваць новы корм: ня можна гэтаго рабіць пакуль на дварэ сьцюдзёна і німа пажывы. Тагды кармленьне ня толькі не прынясе ніякай карысьці, а ешчэ не мала пашкодзіць, бо матка многа начэрыць, а пчолы выляцеўшы з вульлеў, і не знайшоўшы пажывы пагінуць; ня будзе каму дагледаць яечак і карміць дзетак. Пачынай карміць, калі ужо зацьвіце чаромха і настане харошая пагода.

На ноч корм трэба прыймаць ад пчол, каб не спакушаць суседзкіх пчол да крадзежы. Старайся каб у вульлі было цёпла,

**Г. Б.**

**Адрэсы фірмоу.** (У гэтым аддзелі кожны адрэс друкуецца 1 раз за 50 кап.).

**Будоулі і мераньне зямлі:**
**„Строітель“**
**Вільня, Віленская 31.**

**Палепшэньня сеножацей, балот:**
**„Культура“**
**Вільня, Виленская 31.**

**Гаспадарскіе машыны млечарні:**
**ЗЫГМУНТЪ НАГРОДЗКІ**
**Вільня.**

## Почтовая скрынка.

**Зембін:** Бач-му:

Консэрвные фабрыкі будуюць. 1) Gustaw Christ i & Berlin Weissensee, 2) Gebrüder Karges, Brauschweig. Звярніцеся так сама за парадай С.-П.Б. Департамент Земледелія к старшему інструктору по переработке фруктов. Такую фабрыку закладаець цяпер астраханское таварыство сельскай гаспадаркі.

**Патребны каморнікі у суполку „Культура“**
**Вильня, Вилеиская 31.**

# АБВЕСТКІ.

Выпісываючы па абвестках просім пісаць, што прачыталі яе у газ. „Саха“.

**„Saltinis“**, літоўскі журнал выходзіць раз у тыдзень у г. Сейнах, Сувалк. г. На 1 год 3 р. на 6 мес. 1 руб. 50 к.

**„Рыболов и Охотник“** выходзіць у г. Вятка (Ніколаеўская вул.) 2 разы у месяц, на спосаб лепшых французкіх журналоў. На 1 год 2 руб. Пробны нумэр высылаецца за 7 к. марку.

Прадаюцца бугаі швіцкой пароды ад 6 месяцоў да 2 гадоў у маёнтку Бабоўня Трускаляской; почта Несвіж Мінскай г.

Высылаець дарма каталогі кніг па сельскай гаспадарцэ і рэмеслам, усім хто прышлець адкрыткай свой адрэс **Кнігарня** Л. М. Гіршовскаго. Вільня, Вялікая в. 31.

**„Техника и сельское хозяйство.“** Месячнік. На 1 г. — 1 р. 50 к., на 6 м.—75 к. Петербург Екатерингофскій пр. № 8—11.

**„Селяник"**, двухнедзельнік сельской гаспадаркі і хаўрусоў. Выдаецца чэрнігоўскім таварыствам сельской гаспадаркі. На 1 г.—1 р. 50 к. на 6 м.—75 к. г. Чэрнигов. Богоявленская.

**„Сталяр"**, двунедельны ілюстрованнія журнал. У № 5 рысунки: садовая мэбель, альтанка, сэкрэтары, канапа—шафа. На 1 год 5 руб., на 6 мес. 2 р. 60 к. Петербрг, Корпусная 28.


# МІНСКІ

## Сельска-гаспадарскі Сындыкат.

**Склады машын, прылад гаспадарскіх, насеньня і штучных гнаёу**

**У МІНСКУ, ПІНСКУ і ОРШЫ.**

## Прапануем па танных цэнах для дробных гаспадарак.




**Жнівяркі** Мак-Корміка найлепшые па легкасці і моцы од 160 руб. **Сенакасілкі** Мак-Корміка ад 126 руб. **Кітэ жнівяркі. Конные граблі** без сядзэньня 20 руб. **Конные граблі** с сядзэньнем ад 54 руб. **Косы, сярпы, вагі** дзесяцічные саракавые і сотные, фабрыкі Гесса (на 15 пудоў — ад 16 руб.) **Вага**, на которыхъ можна важыть воз на 120 пудоў — ад 158 руб. **Пажарная** і садовая **помпа** на 2 колкі — ад 70 руб. **ручные помпы** ад 11 руб.

**Каталогі высылаюцца дарма.**


Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу**. Друкарня „Зніч" Вільня.